# ВЯЛІКІ САБОР Б.А.П.Ц. Ў НАВАГРАДКУ



*ВІТАЎТ, Вялікі Князь Літоўскі, ініцыятар Наваградзкага Сабору.*

У нядзелю, 13-га лістапада сёлета, Парафія Св. Кірылы Тураўскага ў Ню Ерку, супольна з Парафіяй Жыравіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парку й Парафіяй Сьвятой Троіцы ў Дораты, адзначылі ўгодкі Вялікага Сабору БАПЦ, які адбыўся ў лістападзе 1415-га г. ў Наваградку.

Божую Службу ачоліў Уладыка Архіяпіскап Мікалай у саслужэньні Прат. Карпа, а. Александра й Дыякана а. Расьціслава Войтэнка.

Падчас абеду, Уладыка Мікалай прачытаў зьмястоўны рэфэрат на тэму „Наваградзкі Сабор". Скарочаны тэкст рэфэрату друкуецца ў царкоўным часапісе БАПЦ *Голас Царквы* ў нумары 48-м.

Мінула ўжо 562 гады, ад даты склікання Наваградзкага Сабору БАПЦ. Сучасная Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква, аналізуючы падзеі рэлігійнага й палітычнага жыцьця тагочаснага ВКЛ лічыць, што Наваградзкі Сабор меў асабліва вялікае значэньне, у першую чаргу, для кансалідацыі й замацаваньня Царкоўнага жыцьця на тэрыторыі сваёй Дзяржавы, падругое, Літва хацела ўнезалежніцца ад Канстанцінопальскага Патрыярха, прынамся так далёка, каб выбар і пастаўленьня свайго Мітрапаліта для Літвы, адбывалася бяз згоды Канстантынопаля.

Справа суадносін Літоўскай Мітраполіі да Патрыярха, асабліва заваострылася пасьля таго, калі Канстантынопальскі Патрыярх не зацьвердзіў кандыдатуры на Мітрапаліта для Літвы Архімандрыда Рыгора Цамблака, які быў выбраны на Саборы ў Наваградку ўсім праваслаўным духавенствам Літвы, а Вялікі Князь Вітаўт ад сябе прасіў Патрыярха зацьвердзіць выбар. Пасьля гэтага, як Патрыярх адмовіўся зацьвердзіць выбары, тагды Сабор выбірае Рыгора Цамблака на Мітрапаліта, бяз згоды Патрыярха, бяручы за аснову кананічныя правілы, што двух або трох япіскапаў пастаўляюць Першага Япіскапа.

Пазьней Канстантынопаль прызнаў пастановы Сабору, а Гыгор Цамблак застаўся Мітрапалітам Літвы аж да самай сваёй сьмерці.

Такім парадкам БАПЦ, даклпдней ЛАПЦ, пасьля Наваградзкага Сабору, застаецца Царквою Незалежнай, Аўтакефальнай аж да канца 18-га стагодзьдзя, да часу акупацыі Літвы Расеяй.

*— М. Г.*



*Група сястрыц (першы рад) зьлева направа: Л. Корчык, М. Варабей і Г. Яновіч. Другі рад: М. Данілюу, А. Курыла, З. Гарошка, О. Тулейка й В. Яновіч.*

# Натуральнае Права й Канстытуцыя Б.Н.Р.

Шэсьцьдзесятыя ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу БНР, што адбыўся ў сьнежні 1917 г. ў Менску, ды які мы сёлета ўрачыста сьвяткуем у свабодных краінах усяго сьвету, напамінаюць нам аб бязпраўным жыцьці нашага народу на Бацькаўшчыне.

Універсальная ідэя справядлівасьці, што завецца Натуральным Правам (Lex Naturae) ды якая была бязпрэчным законам прагалошаньня Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, маець даўгую, больш за 2000 гадоў гісторыю.

Яшчэ ў працах Платона й Арыстоцеля многа гаворыцца аб справядлівасьці й натуральных правох чалавека.

У 308м годзе, старое эры, грэцкі філёзаф ЗЭНО агалошвае сваю новую тэорыю — Стоікаў. Аснаўнымі прынцыпамі дактрыны Стоікаў, ёсьць праблема этыкі й палітыкі, ды праблема права й справядлівасьці. Стоікі прызнаюць свабоду й роўнасьць усіх перад законам, ды іншыя людзкія правы. Ад Стоікаў ідэя Натуральнага Права была перанятая Рымам, дзе гэтае права сталася законам усей Рымскай Імпэрыі. Цыцэрон, у сваёй працы „Дэ Рэпубліка" абагульняе прынцыпы дактрыны Стоікаў да выкарыстаньня рымскім заканадаўствам. Пазьней, ідэі Натуральнага Права прысвойвае царква ды ўпісвае іх да кананічнага права. У сярэднія вякі, такім парадкам, Натуральнае Права падпарадкоўваецца ўплывам царквы ды знаходзіцца ў поўнай згодзе з царкоўнай дактрынай.

У пэрыяд позьняга сярэднявеча Натуральнае Права йзноў становіцца аб'ектам філязофскіх разважаньняў, але й надалей яно яшчэ застаецца ў згодзе з царквою.

У 1625м годзе Гротіус выступае супраць падпарадкаваньня Натуральнага Права Царкве. Ён узалежнівае Натуральнае Права ад сацыяльна-палітычных і грамадзка-гаспадарскіх праблемаў народу.

Лэйк і Джэфэрсон успрыймаюць Натуральнае Права як ідэю Універсальнага Права, ды ўважаюць гэтыя законы галоўным элемэнтам Амэрыканскай Рэвалюцыі.

Натуральнае Права ня ёсьць абстракцыяй; яно маець багатыя вызваленчыя традыцыі. Свабода й справядлівасьць, кажа Лакэ, ёсьць галоўным зьместам каждага ўраду й каждай дзяржавы. Справядлівасьць і свабода для ўсех людзей, нягледзячы на нацыянальныя, расавыя й рэлігійныя розьніцы. Чалавек, кажа Лакэ, ня можа гадзіцца з ніякай тыраніяй і дыктатурай. Заданьнем дзяржаўных законаў — бараніць і захоўваць свабоду сваіх грамадзян.

Калі, якая-колечы, дзяржава надужывае свой аўтарытэт, ды бязпраўна крыўдзіць сваіх грамадзян, тады чалавек мае права не падпарадкоўваца гэтым законам. Далей Лакэ кажа, што законаў ня трэба адмяняць або касаваць але захоўваць, абараняць ды пашыраць свабоду.

Значэньне Натуральнага Права — аграмаднае. Ягоным галоўным законам ёсьць вечны закон свабоды й справядлівасьці.

Усе краіны сьвету, за выняткам таталітарных і таталітарна-камуністычных, лічаць закон Натуральнага Права за аснову сваіх нацыянальных канстытуцыяў.

*— М. Г.*



*Сп-ня М. Варабей, кіраўнічка царкоўнага прыняцьця.*

## УЛАДЗІМЕР БУКОЎСКІ Ў ДЭТРОІЦЕ

Усім, добра знаны дысыдэнт, Уладзімер Букоўскі, змагар за вызваленьне чалавека ад савецкага нявольніцтва, 16га лістапада г.г. завітаў да Дэтройту, як госьць AFL- CIO.

На абедзе, які быў зладжаны ў гонар Сп. Букоўскага, прысутнічалі прадстаўнікі ўладаў, прадстаўнікі ад розных грамадзкіх і этнічных арганізацыяў ды прадстаўнікі прэсы. Ад беларусаў было двух прадстаўнікоў: Спадар Інж. Янка Бруцкі й Спадар Др. Ю. Сажыц.

Адказваючы на розныя пытаньні, якія ставіліся У. Букоўскаму, ён адказаў, што чалавек, жывучы ў вольным сьвеце ня можа навет сабе ўявіць стопня нявольніцтва, маральнага й фізычнага ўціску на чалавека ў Савецкім Саюзе.

Спачатку людзі мелі надзею, казаў У.Букоўскі, што Гэльсінская Дэклярацыя прычыніцца да адпружаньня нутраных суадносінаў паміж савецкім рэжымам і савецкім чалавекам. Нажаль, так ня сталася: людзі хутка пераканаліся, што „Гэльсінкі" ня прынясуць ніякага палепшаньня. Далей У. Букоўскі сказаў, што савецкі чалавек усёжтакі верыць, што ЗША павінны больш рашуча выступіць у абароне людзкіх правоў. Варта пры гэтым прыпомніць што У. Букоўскі атрымаў свабоду праз ягоную вымену на лідэра камуністычнага руху ў Чылі Луіза Карвеляна Лэпэ.

*—В. С.*

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

*працяг з 8-й бачынкі*

ры: вера нашых продкаў — традыцыйная вера, і вера новая, праваслаўная. Разам яны твораць адзіную праваслаўную беларускую Царкву, а народ наш часта завець яе проста „нашай верай".

*—А. Асіповіч*

# 60-я Ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й Дзень Герояў Беларусі ў Таронце

60я ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, што адбыўся ў сьнежні 1917 г. ў Менску, і Дзень Герояў Беларусі, Беларусы Канады адзначалі ў нядзелю 27 лістапада ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронце.

Перад урачыстым сходам, які арганізаваў Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, у беларускіх царквох Сьв. Кірылы Тураўскага й Сьв. Еўфрасініі Полацкай адслужаны былі Сьв. Літургіі й Паніхіды за Герояў Беларусі.

Урачысты сход, якім кіраваў старшыня ККБК Др. Б. Гагуля, пачаўся адчытаньнем прывітаньня Старшыні Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіча. Старшыня Рады БНР прадставіў абставіны, у якх Першы Ўсебеларускі Кангрэс арганізаваўся й адбываўся, манумэнтальныя вынікі працы Кангрэсу – утварэньне Беларускай Рэспублікі – што завяршылі Беларускую Нацыянальную Рэвалюцыю, ды кансэквэнтна ўтварэньне новае пары ў гісторыі Беларусі, пары змаганьня за аднаўленьне незалежнай беларускай дзяржавы.

– „Змаганьне гэта сталася абавязкам усіх Беларусаў, усяго Беларускага народу, а тым больш, тэй часткі яго, што знаходзіцца ў вольным сьвеце." – цьвердзіў Старшыня Рады БНР.

Зьмястоўны даклад на тэму дня прачытаў наш госьць з Дэтройту Маг. В. Плескач.

Пашана памяці беларускіх герояў што аддалі жыцьцё за волю Беларусі было аддана хвілінай маўчаньня пасьля зачытаньня старшынём ККБК сымбалічнай лісты Герояў Беларусі, ды агульным адсьпяваньнем „Сьпі пад курганам герояў..."

Беларускі Нацыянальны Гімн завяршыў урачыстасьць, клічам якое сталіся словы Старшыні Рады БНР:

*Хай жыве вольная, незалежная й непадзеленая Беларуская Народная Рэспубліка!*

*Слава Героям – Арганізатарам і Дэлегатам Першага Ўсебеларускага Кангрэсу!*

*Проч зь Беларусі расейскую бальшавіцкую ўладу узурпаваную Масквой!*

# Мой Адказ...

* * *

Падчас Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, 6 верасьня 1976 г. ў Гайлэнд Парк, Старшыня Галоўнай Управы БАЗА, Сп. Шукелойць,сказаў, што быццам я адмовіўся перадаць канцэлярыю й архіў БАЗА наступнай Галоўнай Управе.

У сувязі з тым, што гэткі закід супраць мяне быў зроблены публічна й безпадстаўна, я лічу сваім маральным абавязкам давесьці да публічнага ведама наступнае:

1) Няпраўдай ёсьць, што я не перадаў канцылярыі БАЗА, а праўдай ёсьць што канцылярыя сакратара й скарбніка была й засталася ў валоданьні Сп. Васіля Русака, які быў скарбнікам і сакратаром арганізацыі адначасова.

2) Усе пратаколы Галоўнай Управы БАЗА засталіся ў папцы сакратара й былі пераданыя новай Управе.

3) Няпраўдай ёсьць, што архіў БАЗА за мінулыя гады я не перадаў новавыбранай Управе, а праўдай ёсьць, што згодна пастановы 11-га Кангрэсу БАЗА, ён знаходзіцца ў архіве Фундацыі П. Крэчэўскага.

4) Праўдай ёсьць, што новавыбраная Галоўная Управа БАЗА, яшчэ да гэтага часу не аплаціла маіх канцэлярыйных рахункаў. Усе рахункі мае скарбнік Галоўнай Управы, Сп. Васіль Русак.

5) Праўдай ёсьць, што Галоўная Ўправа БАЗА, апрача неаплачаных канцэлярыйных рахункаў, вінавата мне каля 1000 даляраў за мае паездкі да Вашынгтону, Чыкага, Бастону й іншых гарадоў ЗША за пэрыяд маіх двух кадэнцыяў старшынства Галоўнай Управы БАЗА.

6) Праўдай ёсьць, што 16-ы Кангрэс БАЗА вынес пастанову, ня прыймаць маёй справаздачы за апошнюю кадэнцыю (глядзі газэту *Беларус* №218). Цікава, якімі пастановамі й законамі карыстаўся Кангрэс, прапануючы й прыймаючы гэтую неабаснаваную ніякімі статутовымі законамі пастанову? Няпрыняцьце справаздачы, гэта адначасна ёсьць ліквідацыяй арганізацыі.

7) Праўдай ёсьць, што рэвізыйная камісія не правяла рэвізіі маёй справаздачы, якая складаецца з 12-х кнігаў розных дакумэнтаў. Галоўны рэвізор, якому былі даручаныя да перагляду мае матар'ялы, ня зрабіў рэвізыі, не напісаў пратаколу рэвізыі й не зрабіў для Кангрэсу ніякай прапановы.

У сувязі з вышэй паданымі фактамі, лічу патрэбным вызначыць спэцыяльную камісію, якая дакладна праверыць усё, што датычыцца перадачы маіх актаў БАЗА й урэгулюе ўсе неаплачаныя рахункі. Суму 1000 даляраў за мае паездкі, я ня буду спаганяць ад арганізацыі БАЗА, але рэшта маіх рахункаў павінны быць аплачаны.

У мяне застаецца да справаздачы 12 кнігаў дакумэнтаў за апошнюю маю кадэцыю, якія ня былі прынятыя Кангрэсам.

Да перадачы застаюцца машынка да пісаньня й 2 пячаткі якія я сам замовіў. На працягу 25 гадоў Галоўная Управа ўжывала іншыя пячаткі, каторыя знаходзяцца ў сакратара, так што я лічу безпадстаўным закід Сп. Шукелойца, каторы гаворыць, што бяз гэтых пячатак, ён ня можа весьці сваёй працы. Я поўнасьцю запярэчваю праўдзівасьць усіх закідаў Сп. Шукелойца й дамагаюся каб Сп. Шукелойц публічна перапрасіў мяне ў беларускай прэсе.

– *Др. Р. Гарошка*

# З Хронікі Штату Мічыган

Этнічная Рада Мічыгану наладзіла 2 кастрычніка 1977 вялікі банкет у гонар некалькіх асоб з розных нацыянальнасьцяў. Ім была ўручана спэцыяльная грамата-адзначэньне за іх многагадовую й самаахвярную працу ў грамадзкім, культурным і палітычным кірунку ў Штаце Мічыган, а асабліва ў мэтраполіі Дэтроіту.

У 1977 годзе асаблівае прызнаньне было выражана шасьці асобам, сярод якіх быў і Мгр. Васіль Плескач, шматгадовы працоўнік на гэтай ніве ад беларускай нацыянальнай групы.

У прыняцьці, так званым International Gala II, якое адбылося ў адным з найпрыгажэйшых рэстаранаў гораду Troy „San Marino" прынялі ўдзел больш як 500 асоб, прадстаўнікоў ад розных этнічных групаў, афіцыяльных рэпрэзэнтантаў ад губэрнатара Штату Мічыган, маёра гораду Дэтройту й другіх навуковакультурных амэрыканскіх установ.

Старшыня Рады Дырэктараў Этнічнай Рады Мічыгану асабіста ўручыў кожнаму з „этнікаў" году (Ethnic of the Year) спэцыяльнае адзначаньне, падкрэсьліўшы заслугі й працу кожнага для культурнага разьвіцьця штату, а асабліва гораду Дэтройту.

Проч гэтага, быў наладжаны вялікі канцэрт і спэцыяльная выстаўка, якая асабліва выразна паказвала дасягненьні этнічных групаў Мічыгану й спапулярызавала вялікую ролю, якую адыгрываюць розныя нацыянальнасьці ў культурным жыцьці амэрыканскага народу. Як відаць з копіі ліста Старшыні Рады Дырэктараў, James V. Bellanca, Jr., у 1977 годзе былі адзначаныя наступныя нацыянальнасьці – француская, амэрыканская (2 разы), баўгарская, вэнгерская й беларуская.

Трэба тут зазначыць, што гэтае адзначэньне знайходзіць вялікае прызнаньне сярод Амэрыканцаў і амэрыканскіх афіцыяльных чыньнікаў. Так напрыклад, у папярэдніх двух гадох гэтае высокае адзначэньне было прызнана вядомым грамадзка-палітычным амэрыканскім дзеячам, як нпр. былому губэрнатару Штату Мічыган, Mennen G. Williams, цяперашняму судзьдзі найвышэйшага суду Мічыган, быламу прэзыдэнту Detroit Edison Co. і вядомаму дзеячу Walter Cisler, судзьдзі найвышэйшага суду штату Mc. Cree.

Імёны адзначаных былі занесены ў афіцыяльныя архівы гораду Дэтроіту й Штату Мічыган і там астануцца, як доказ, што прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў былі адпаведна ацэнены амэрыканскімі ўрадовымі чыньнікамі й амэрыканскаю апініяю.

Беларуская група вельмі ганарыцца што й яна належна была ацэнена, асабліва з увагі на тое, што 20 гадоў таму назад Амэрыканцы нават ня ведалі, што існуе Беларусь і што маюць многа грамадзян беларускага паходжаньня.

Губэрнатар штату й маёр гораду Дэтроіт выдалі спэцыяльныя праклямацыі, а Рада Гораду Дэтроіт з гэтае нагоды выдала спэцыяльную рэзалюцыю, якая выразна падкрэсьлівае значэньне этнічных групаў у жыцьці Дэтроіту.

Дзьве праклямацыі й рэзалюцыя Рады Гораду Дэтроіт сьцьвярджаюць факт, што этнічныя групы ёсьць цяпер складовай часткаю амэрыканскага жыцьця й служаць для дабра й разьвіцьця ўсяго амэрыканскага народу.

– *С. В.*

## ДА ГАДАВІНЫ ПАСТАЎЛЕНЬНЯ МІТРАПАЛІТА ГРЫГОРА ЦАМБЛАКА Ў НАВАГРАДКУ Ў 1415 ГОДЗЕ

*працяг з 5-й бачыны*

й былі паінфармаваны ў справе жаданьня мець свайго мітрапаліта ў Вялікім Княстве Літоўскім, і на іхнюю прапанову перанесена справу пастаўленьня мітрапаліта на дзень Св. Піліпа 14 кастрычніка.

Прайшлі ўсе намечаныя даты, але згоды Патрыярха не атрымана. Тады В. К. Вітаўт зноў склікае Сабор, каб паставіць Архім. Грыгора Цамблака на мітрапаліта. Па думцы гісторыкаў, 15 лістапада й была праведзена Хіратонія Грыгора Цамблака на Мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага. Мітрап. Грыгор узначальваў мітраполію й кіраваў ёю з 1415 па 1420 г.

Вялікае Княства Літоўскае, у той час, мела асновы на сваю незалежную Праваслаўную Царкву, узначаленую мітрапалітам выбраным сваім Саборам Япіскапаў. Яно было вялікаю й магутнаю дзяржаваю й зразумела не хацела зьмірыцца з фактам, што мітрапаліт Фоці кіраваў Праваслаўнаю Царквою Вялікага Княства Літоўскага з варожае Масквы. Канстантынопальскі Патрыярх мусяў узважыць існуючую сытуацыю й задаволіць просьбу В. К. Вітаўта й Сабору Япіскапаў.

Як мы бачым, адбывалася вялікае змаганьне на ўстанаўленьне свае аўтакефальнае мітраполіі, якую мелі на той час іншыя народы.

Гэты выпадак стаўся пачаткам падзелу мітраполіяў Вялікага Княства Літоўскага й Масквы.

Пасьля падзелу мітраполіяў устанавілася практыка выбару мітрапалітаў для мітраполіі з мясцовага духавенства самымі праваслаўнымі ў Наваградку або ў Вільні з багаславеньнем Канстантынопальскага Патрыярха. Усе далейшыя мітрапаліты выбіраліся й пастаўляліся япіскапамі Літоўскае (Беларускае) мітраполіі. Аднак правіла атрыманьня папярэдняга багаславенства ад Патрыярха было парушана пры выбары Мітр. Макара. Мясцовая летапісь паведамляе: „Сабраліся тады япіскапы: уладзімірскі Вассіян, луцкі Іона й паставілі Архімадрыта Макара, а да Патрыярха за багаслаўленьне паслалі старца Дыяніса й манаха Германа." Патрыярх зацьвердзіў Макара, але прыслаў свайго апокрысіярыя сказаць наступнае: „У будучыне не пастаўляйце мітрапаліта пакуль не атрымаеце ад нас багаславенства, хіба толькі здарыцца вялікая патрэба." Япіскапы-ж у сваім выясьненьні сказалі: „Мы не адкідаем старавечных звычаяў Саборнае Царагорадзкае Царквы й багаславеньня нашага айца Патрыярха, а зрабілі гэта па патрэбе, як і перад намі зрабілі так нашыя браты япіскапы пры Вялікім Князю Вітаўту, паставіўшы мітрапалітам Грыгора Цамблака." (Макарій, IX. Ст. 83, 141-143)

– *Прат. Васіль Кэндыш*

## BUKOVSKY IN CHICAGO

*continued from page 2*

**KGB agents, that is, the executioners of our people, those who shot down the striking workers, those who keep the participants in the human rights movement rotting in jail. Since when have hangmen been considered to be the representatives of those hanged?**

**Who needs such an 'exchange of people'? It merely lends a respectable coloring to phony Soviet institutions, but it does not help our peoples to better understand each other.**

# Адзначэньне Працы Сп-ства Тулейкаў



Спадарства Тулейкі

Другою часткай царкоўнай урачыстасьці (13.11.1977), было адзначаньне шматгодняй працы Сп-ва Тулейкаў. Спадар Міхась Тулейка ад 1949-га году, адразу па сваім прыезьдзе ў ЗША, быў актыўным сябрам многіх беларуска-грамадзкіх арганізацыяў. Усё ягонае жыцьцё на працягу блізу трыццаці-годняга пэрыяду, было перапоўнена грамадзкай працай і працай для БАПЦ. Усе беларусы, жыхары Ню Ёрку й ваколіц, заўсёды бачылі ў сваіх шэрэгах заклапочаную й жывую постаць Міхася Тулейкі. Ніводная падзея ў нашым супольна-грамадзкім жыцьці ня абышлася бяз Ягонага ўдзелу. Ён быў усюды: Старшынём Галоўнай Управы БАЗА, Старшынём Акругі БАЗА, настаўнікам беларускай суботняй школкі, Старшынёю Згуртаваньня Беларускай Моладзі, Скаўт-Майстрам, Рэгентам царкоўнага хору й нецаркоўнага, Старшынёю Парафіяльнай Рады й Сакратаром Парафіяльнай Рады. Працавіты, дысцыплінаваны й аж да драбніц дакладны.

Сп. М. Тулейко адышоў ад актыўнай беларускай працы, толькі пасьля таго, калі стан Ягонага здароў'я патрабаваў даўжэйшага адпачынку.

Вітаючы Спадарства Тулейкаў, Спадарыня Зіна Станкевіч расказала аб юнацкіх гадох ягонага жыцьця, а Спадар Уладзімер Курыла расказаў аб ягонай грамадзкай працы ды ўручыў Сп. М. Тулейку ганаровую табліцу ад усёй беларускай калёніі Ню Ёрку й ваколіц; Спадарыні Олі Тулейко, Спадарыня Марыся Верабей паднесла прыгожы букет розаў.

На заканчэньне Сп. М. Гарошка выказаў шчырую падзяку сястрыцам, Сястрыцтва Прыходу Св. Кірылы Тураўскага, Спадарыням: Марысі Верабей, Галіне Яновіч, Тэрэсе Міцкевіч, Спадарышні Марысі Міцкевіч і Старшыні Сястрыцтва, Спадарыні Зіне Гарошка.

Урачыстасьць была закончана малітвай, якую прачытаў Уладыка Архіяпіскап Мікалай.

—*М. Г.*

ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ
*і*
ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ
*ўсім падпішчыкам, знаёмым і ўсім беларусам*
*жадае*
*РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ „ЧАС"*

З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ ГОДАМ
Высокадастойных Уладыкаў Нашых
МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ,
АРХІЯПІСКАПА МІКАЛАЯ,
Пачэснае Сьвятарства, Царкоўны Клер БАПЦ
і Ўвесь Беларускі Народ
*вітае*
*ПАРАФІЯЛЬНАЯ РАДА Й СЯСТРЫЦТВА САБОРУ*
*СВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў НЮ ЁРКУ*

Вясёлых Калядаў, Шчасьлівага Новага Году,
ўсім Парафіянам і Знаёмым
жадае
а. Александар Яноўскі

*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ*
*ЎСІМ ПРЫЯЦЕЛЯМ І ЗНАЁМЫМ, ЖАДАЕ*
*М. ГАРОШКА З СЯМЬЁЮ*

# Я. ЮХНАВЕЦ

*Дождж мінуў. Ты вецер у дастатку*
*цяпер пагавары за кроплі галасна.*
*Барзьдзі да дрэў.*
*Пасьля дажджу, бы арфы новыя,*
*яны*
*гучней адкліканцца...*

*У роўні сваіх часінаў доўга*
*дрэвы добрасьцяй дажджын зіхцелі.*
*Уночы толькі вецер іх крануў,*
*бы месяц пырскаўся зь нябёснае купелі.*

* * *

*Каламатым пакульлем — над рэчкай туман.*
*На сьцежках зорных — крыкі журавоў.*
*Зьнямоглы красаваньнем — уцеху адцьвітаньня,*
*здаецца, вецер па ўзьбярэжжы вёў.*

*Ён штогод над журботай хваляў*
*дажджжавыя пасмы разьвівае.*
*Штогод асеньняю парою*
*сьвет неспакметна старасьць забаўляе.*

* * *

*Зоры рэдкія іскрацца, як раса,*
*і вецер лёгкі —*
*дыханьне дзіцяці.*

*Сад губляецца ў пацемках,*
*і крокі —*
*гамонка немаўляці.*

*Калі-б месяц засьвяціў раней*
*і вецер лёгкі*
*сьцішыў шамценьня лісьця,*
*я пэўна,*
*глушэц зямлі далёкі,*
*падслухаў Бога прыйсьця.*

* * *

*Усё зьбянтэжыць можа сьляпых душой*
*яны ратуюцца пад іншай галавой.*

*Ім прыхамяць радзьвіцца ў знаку кажным*
*навет прыдарожным, навет у гаражным.*

*Калі Бог ім пасылае болясьць*
*вінуюць шчыра: касьцям ня трэба водрасьць.*

*Мой верш наўмысны, валей заўваж ты вецер!*
*Душу карціўых пладзінёй увеціш.*

*Далінамі ймкні, хавайся ў садох, у лесе —*
*раны астудзі жыцьцё што весьцяць.*

* * *

*Так ціха што навет, здаецца,*
*сам разсыпаўся ў ціхату.*
*Сонца заходу, бы скронь бражовая неба.*
*І час усялякі далёкі, бяспамятны,*
*бадай зрабіўся вячорнай зарой.*

*Ветру няма — ён за дзень ацяплеў,*
*ляпуецца скрасьці ўражаньні дрэў.*
*Цішэй позірку возера сьвеціцца.*
*Чарот і трысьцё — валасы абмяклыя*
*на плечы бярэжжаў апалі.*

*У гэты вечар, блізу сьвята-сьвяточны,*
*цела аціхла маўклівай пакорай...*

*Сонца зайшло.*
*І на сьцежку, ступіўшы, зноў —*
*заўтрашні дзень*
*турботай*
*пакорыць.*

# Ліст у Рэдакцыю

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

Не адмоўце на балонках Вашай паважанай газэты зьмясьціць наступнае: На мой папярэдні ліст „Цікавая тэма," зьмешчаны ў *Беларускім Часе* №11-м, я атрымаў некулькі лістоў з просьбаю, больш дакладна, выясьніць назовы: „Старая вера" або „Правера" і „Стараверы".

Адказваючы на гэтае пытаньне, я хочу зацеміць, што абодва гэтыя назовы значна розьняцца адзін ад другога. Тагды, калі назоў „Старая вера" або „Правера" абазначае нашую старую веру дахрысьціянскай эры, то назоў „Стараверы" ёсьць назовам рэлігійнай сэкты, якая паўстала праз раскол Маскоўскай Праваслаўнай Царквы ў 17 м і ў другой палове 18га стагодзьдзяў. Прычынай расколу, як ведама, была забарона карыстаньня царкоўнымі пісанымі кнігамі, а толькі друкаванымі, якія былі ўведзены да царкоўнага карыстаньня, замест пісаных.

Назоў старых пісаных кнігаў стаўся пазьней і назовам іхняй сэкты („Стараверы").

Зусім іншая справа „ПРАВЕРЫ" беларускага народу. У нашым народзе глыбока закараніліся й перахаваліся духовыя традыцыі нашай мінуўшчыны. А гэта прамаўляе затым, што нашая „Правера" была апрычонай верай, ды зусім ня была падобнай да традыцыйных „вераў" нашых суседзяў. Ейная моц прамаўляе затым, што нягледзячы на даўгія імкненьні нашых ворагаў вырваць з душы беларускага народу ягоную спадчыну, ягоную веру, ніколі ня мела посьпеху.

Духовыя традыцыі знайшлі сваё адбіцьцё ў многіх аспэктах жыцьця нашага народу. Калядныя сьвята, напрыклад, захаваліся ў сваёй чысьціні ды сьвяткуюцца й па сяньняшні дзень. Дзяды, перадусім — гэта культ пашаны для памершых ды глыбокая вера ў пазагробнае жыцьцё.

Беларуская „Старая Вера" або „Правера" захавалася аж да апошняга часу. Таму ў нашым народзе ёсьць сяньня, як-быццам, дзьве ве-

*працяг на 6-й бачыны*